PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ" 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 14 (1821) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 7 КРАСАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)

## У СВЯТАДУХАЎСКІМ ПРЫХОДЗЕ

Гэтая падзея адбылася некалькі месяцаў таму назад, аднак яна сваім грамадскім значэннем не абмежавана часам, таму мы не хочам прамінуць яе на старонках нашага часопіса.

Праваслаўныя антанюкоўскага прыхода ў горадзе Беластоку правялі стары 1990 і сустрэлі новы 1991 гады выдатным актам — 14 студзеня г.г. наступіла высвячэнне новага вялікага парафіяльнага дома. Паўстаў ён стараннямі парафіян і духавенства на чале з а. Георгіем Барэчкам пры новым манументальным Святадухаўскім саборы.

Асвячэнне будынка папярэдзіла літургія ў пячорнай царкве Святадухаўскага храма. Служылі яе архіепіскап беластоцкі і гданьскі Сава і епіскап люблінскі і холмскі Авель, духавенства з горада Беластока і ваколіцаў. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі ваявода беластоцкі Станіслаў Пруціс, прэзідэнт горада Беластока Лех Руткоўскі, дэлегат упаўнаважанага Урада па справах рэформы мясцовага самакіравання Станіслаў Сроцкі, шматлікія прыхаджане, праваслаўныя з іншых шасці беластоцкіх парафіяў, прыбыўшыя з розных мясцін Беласточчыны. У пранікнёнай пропаведзі арх. Сава падкрэсліў стваральную і выхаваўчую ролю Праваслаўя ў нашым грамадстве, адзначыў працавітасць і заангажаванне праваслаўных у гаспадарчым, грамадскім і культурным жыцці краіны. Затым архіпастыр падзякаваў усім — краёвым і замежным — ахвяравальнікам за іхні шчодры ўклад у пабудову Святадухаўскага храма і прыхадскога дома. Прэзідэнт г. Беластока Л. Руткоўскі выказаў сваё захапленне веліччу праваслаўнага набажэнства (удзельнічаў, як сам заўважыў, у праваслаўнай літургіі ўпершыню), акцэнтаваў, між іншым, імкненне новых уладаў III Рэчыпаспалітай да поўнага раўнапраўя ўсіх веравызнанняў, стварэння ім як мага болей спрыяльных варункаў для развіцця іхняй усебаковай дзейнасці. Асаблівую ўвагу звярнуў на адзінства ў Хрысце католікаў і праваслаўных, мірнае іх сужыццё і супрацоўніцтва для дабра Справы Госпадняе і супольнай Айчыны.

Дагэтуляшнюю самаадданую дзейнасць а. Г. Барэчкі на ду-

(Працяг на стар. 7)



## УСКРЭСНІ!

Ён уваскрос,
Ён — дзесь між намі,
Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,
у сіняй смузе над палямі
вісіць вясна...
Ён уваскрос.
Ускрос, і зноў на Беларусі
перад сабой ідзе Хрыстос...
Здымае з душ настылых вусціш,
благаслаўляе соладзь кроз,
сяліб раскіданых прысады,
муры нязлічаных вязніц
і тых,
што пагубілі радасць
па кроплі кропля й дзень па дні...
Ідзе Хрыстос... Над Ім дугою
ўстае густы блакіт нябёс,
а ногі ў ранах незагойных
кладуць сляды на шэрань рос...
Дык прыпадзем
і вусны спалім
на тых слядох, што Бог-Хрыстос
губляе, моўчкі йдучы ў далеч,
бо Ён ускрос,
Ён уваскрос!
Няхай над родным папялішчам
усцяж галосіць нема лес,
няхай крывавяць нас і нішчаць —
ускрэсне Край,
бо й Ён ускрос!..
Устань жа, ўстань,
Ускрэсні сёння
мой Край, як уваскрос Хрыстос!

НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА
1953 г.

## ЗАЯВА
### ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ У СПРАВЕ ЗАКОНА АБ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ

**Пан праф. Мікалай Казакевіч**
**Маршалак Сейма Рэчыпаспалітай Польскай**

У сувязі з падрыхтоўкай у Сейме праекта закона „Аб адносінах Дзяржавы да Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы" Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства жадае перадаць Пану Маршалку заяву Таварыства ў гэтай справе.

Беларускае грамадства з радасцю вітае факт, што Сейм Рэчыпаспалітай Польскай пачаў працу над юрыдычнай рэгуляцыяй адносін Дзяржавы да Праваслаўнай Царквы. Асабліва важным лічым вырашэнне правава-маёмасных пытанняў аналагічна з прынцыпамі, прынятымі ў законе „Аб адносінах Дзяржавы да Каталіцкага Касцёла". У час працы над праектам закона была зроблена прапанова, накіраваная на тое, каб парушыць прынцыпы роўнай трактоўкі веравызнанняў. Гэта непакоіць нас таму, што прыняццё Высокай Палатай такой папраўкі ў адносінах да меншасці стварыла б патэнцыяльную магчымасць рэлігійных канфліктаў. Гэтая боязь вынікае з гістарычных дасведчанняў праваслаўных беларусаў у міжваенны перыяд, калі, выкарыстоўваючы праблему так званай „пасляуніяцкай маёмасці", былі спробы забіраць праваслаўныя цэрквы.

Падтрымоўваем і лічым слушным вырашэнне, выказанае іерархамі Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў лісце, накіраваным 14.03.1991 г. Пану Маршалку. Захаванне статус-кво ў сферы маёмасных спраў дазволіць пазбегнуць сварак і канфліктаў і створыць умовы згоднага сужыцця хрысціян розных веравызнанняў. Дазволіць гэта перамагчы сітуацыю, у якой праваслаўныя беларусы адчувалі б сябе грамадзянамі другой катэгорыі.

Просім Пана Маршалка ўзняць дзеянні дзеля прыняцця закона ў форме, прадстаўленай Палаце сеймавымі камісіямі.

**Беласток, 17 сакавіка 1991 г.**

## Гарачы пленум

Павестка дня пасяджэння Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое праходзіла 17 сакавіка г.г., прапанавала разгледзець аж восем пытанняў на працягу пяці гадзін. Багатая праграма вынікала, пэўна, з таго, што апошні пленум ГП адбыўся амаль паўтара года таму назад (5 лістапада 1989 г.) і за гэты, плённы палітычнымі і грамадскімі пераменамі, перыяд жыццё падкінула многа новых праблемаў, з якімі трэба Таварыству справіцца. Планавалася

(Працяг на стар. 6)






— 33 —

Як вядома, пасля 1988 года пачалі ўзнікаць іншыя беларускія арганізацыі. Аднак, больш ужо ні Міністэрства ўнутраных спраў, ні якая-небудзь другая арганізацыя да нас не звярталася за апініяй і, такім чынам, нараджэнне новых беларускіх структур у ніякай форме не было залежнае ад БГКТ. Так яно, думаю, павінна быць і ў будучым. Яшчэ ёсць многа абшараў беларускага жыцця, на якіх павінны паявіцца самастойныя арганізацыі. Маю на думцы беларускае настаўніцтва, працоўную моладзь, вучняў пачатковых школ. Нядрэнна было б, калі б узнікла арганізацыя беларускіх скаўтаў. Вядома мне, што такая арганізацыя існавала ў асяроддзях беларускай эміграцыі ў розных краінах Захаду і што адыграла яна вельмі пазітыўную ролю ў галіне захавання беларускай нацыянальнай свядомасці.

Час, калі БГКТ было адзінай беларускай арганізацыяй, мінуў беспаваротна. Новыя часы акрэсляць дух плюралізму, з якога павінны скарыстаць таксама беларусы.

Ці ўзнікненне і дзейнасць новых беларускіх арганізацый гарантуе вялікі пад'ём беларускай свядомасці і актыўнасці сярод беларускай нацыянальнай меншасці? Гэта залежыць ад усіх беларускіх арганізацый. На жаль, некаторыя з іх замест таго, каб скіраваць сваю энергію на беларускую скамянеласць,

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

кансерватызм і абыякавасць, павялі атакі на БГКТ. Яно вядома, намнога лягчэй патаптацца на ўзараным палетку, чым на някранутым дзірване. Самае страшнае ў тым, што гэтыя псеўдадзеячы пішуць і гавораць так, каб скіраваць супраць нас высокія ўлады. Другі іх адрасат гэта эміграцыя. Не разумею, што там многа дасведчаных, разумных людзей, якія здаюць сабе справу, наколькі вялікім злом з'яўляецца ўнутраная беларуская нянавісць.

Зразумела, што мы не будзем маўчаць, аднак ніяк не можам перакрочыць маральны парог, каб сказаць тое, што думаем аб такіх дзеячах, у тых установах, у якія яны кіруюць свае містыфікацыі. Аднак, будзем бараніцца ў беларускіх вёсках і беларускіх гарадскіх асяроддзях. Беларусы павінны ведаць праўду. Нашы дзеянні могуць мець, аднак, толькі абаронны характар. У ніякім выпадку не павінны мы ўцягнуцца ў агрэсіўную вайну. Зрэшты, веру я, што прыйдзе да ўсіх апамятанне і ўсе беларускія арганізацыі, карыстаючыся поўнай незалежнасцю і свабодай, скіруюць усю сваю энергію на працу ў родным беларускім полі. Няхай вытварыцца здаровы клімат канкурэнцыі і спаборніцтва. Заклікаю ўсіх старшыняў існуючых беларускіх арганізацыяў і тых, якія мяне любяць, і тых, якія адносяцца да мяне абыякава, і тых, якія мяне ненавідзяць: давайце разам паедзем па беларускіх вёсках і там выступім перад беларусамі! Прадставім свае рацыі і аргументы. Калі хочам, выступайма згодна, калі не — дык ваяўніча. Давайма попісы перад сваім народам, а не перад польскімі міністэрствамі.

У апошнім часе партыйная група выступіла з ідэяй стварыць Раду беларускіх арганізацыяў. Добрая гэта ідэя. Аднак, рэалізаваць яе можна будзе толькі тады, калі разам са статутам гэтай структуры паложым на стол усё тое, што напісалі мы на сябе ў міністэрства і іншыя органы. Перад заключэннем дамоўленасці мусім публічна асудзіць і адрачыся ад усяго таго эгаістычнага і дрэннага, што зрабілі мы адзін другому дагэтуль. І толькі тады будзе створаны грунт да нармальнага супольнага дзеяння.

Самастойнае незалежнае дзеянне розных арганізацый і партый дало дасканалыя вынікі ў высокаразвітых заходніх краінах. Іншага шляху няма. Мусім ісці па тым, які быў створаны найвыдатнейшымі сусветнымі дэмакратыямі. Зразумела, што не адразу атрымаецца ў нас усё так добра і дасканала, як у іх. Мабыць, доўга нам яшчэ прыдзецца вучыцца, падаць і паднімацца, памыляцца і блудзіць.

Адно, аднак, ужо сёння не выклікае сумненняў: беларускія арганізацыі ў Польшчы мусяць да сябе адносіцца талерантна. А перамогу для сябе не могуць шукаць у высокіх чужых установах, а толькі ў сэрцах родных нам землякоў ва Ўсходняй Беласточчыне. Не прастае гэта заданне і вырашыць яго здолее не маналітная і манапалістычная структура, а толькі плюралістычная сістэма свабодных незалежных беларускіх арганізацый.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Згодна з заявай Краёвай рады сялянскай „Салідарнасці" была праведзена блакада дарог** у знак пратэсту супраць сельскагаспадарчай палітыкі ўрада. Сяляне блакавалі дарогі ў 47 ваяводствах (блакад не было ў Катавіцкім і Бельскім ваяводствах). Трактары і сельскагаспадарчыя машыны расстаўлены былі на дарогах у 500 месцах.

**Пратэстацыйная акцыя блакады дарог абмяркоўвалася на пасяджэнні Рады Міністраў.** Урад лічыць неабходным прытрымлівацца законаў. У іх святле акцыя была незаконнай. У адносінах да вінаватых парушэнняў і злачынстваў будуць узбуджаны судовыя справы. Урад з жалем сцвярджае, што ў нелегальным пратэсце ўдзельнічалі некаторыя парламентарыі, парушаючы тым самым прысягу, якая забавязвае іх быць на варце законнасці ў дзяржаве.

**Першая навуковая канферэнцыя гісторыкаў Польшчы і Беларусі** адбылася ў Мінску 22—23 сакавіка г.г. Яе ўдзельнікі звярнуліся з заклікам да дзяржаўных улад, кіраўніцтваў навуковых і асветных устаноў у БССР і Польшчы, у якім прапануюць:

— стварыць супольную польска-беларускую камісію гісторыкаў па справах праверкі і ўзгаднення зместу падручнікаў гісторыі,

— разважыць патрэбу стварэння супольнага польска-беларускага цэнтра даследаванняў над гісторыяй і сучасным станам стасункаў паміж абедзвюма дзяржавамі і грамадствамі,

— стварыць неабходныя ўмовы для працы вучоных з абедзвюх краін у архівах, аднавіць абмен кніжкамі і перыёдыкай. (У наступным нумары прачытаеце назіранні ўдзельніка канферэнцыі д-ра Антона Міроновіча).

**Падрыхтоўка да візіту папы Яна Паўла II працягваецца.** У Беластоку прабывалі прадстаўнікі Бюро аховы ўрада (БОР), якія пазнаёміліся з ходам прац, рашаючых аб бяспечнасці папы і пілігрымаў. Афіцэры БОРу разглядалі таксама маршрут праезду папы ў Святамікалаеўскі сабор на сустрэчу з архіепіскапам Савай і вернікамі Праваслаўнай царквы. Аказалася, што калона аўтамашын не зможа развярнуцца на вул. Ліповай. Пасля агляду месца была дадзена прапанова, каб прывітанне і ўваход папы ў храм адбыліся ад вул. Сасновай. Дзеля гэтага трэба будзе пашырыць мастаўую.

**Выйшаў з друку новы нумар „Часопіса"** — інфармацыйна-культурнай газеты Усходняй Беласточчыны. У нумары шмат цікавага, а менавіта:

— новыя факты аб „дзейнасці" польскага падполля пасля вайны на Беласточчыне,

— праваслаўная праблематыка,

— што далей у беларускім руху Беластоцкага краю?

„Часопіс" будзе месячнікам, прызначаным для беларуска-праваслаўнага асяроддзя. Пытайце пра яго ў кіёсках і пры цэрквах.

**Па ініцыятыве Таварыства „Памост" у Беластоку** адбылася сустрэча з **праф. Ежы Тамашэўскім**, прысвечаная нацыянальным меншасцям у палітыцы II Рэчыпаспалітай.

**Закончыўся аўкцыён на „Газету Вспулчэсну".** Купіла яе Управа рэгіёна „Салідарнасць" у Беластоку.

# Дар беларусаў з ЗША

*Ахвярнасць прабываючых на эміграцыі землякоў на грамадскія і царкоўныя мэты агульнавядомая і фактычна не мае сувязі з іх заможнасцю. Амерыканскія беларусы гэта ў большасці рабочыя, працоўная інтэлігенцыя ды пенсіянеры, якім цяжка прыходзілася выпрацоўваць свой дабрабыт. Вартасць іх ахвяраванняў нельга тады ацэньваць толькі ў матэрыяльных катэгорыях. Гэта перш за ўсё дар сэрца, пачуццё вернасці Бацькаўшчыне, народу і яго культуры.*

*Я меў нагоду і прыемнасць перадаць 31 студзеня 1991 г. ахвяраваныя амерыканскімі беларусамі грошы на адбудову царквы на Грабарцы. Ахвярадаўцам сардэчна дзякую, а рэдакцыю прашу надрукаваць іх прозвішчы.*

**Янка Жамойцін**

**ЛІСТА АХВЯРАДАЎЦАЎ НА АДБУДОВУ ЦАРКВЫ СВЯТОГА ПРААБРАЖЭННЯ ГАСПОДНЯГА НА ГРАБАРЦЫ.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Грэбень | — 100 долараў |
| 2. | Ул. Пялеса | — 50 долараў |
| 3. | М. Сянько | — 50 долараў |
| 4. | А. Ерамёнак | — 20 долараў |
| 5. | С. Янкоўскі | — 10 долараў |
| 6. | В. Валошын | — 20 долараў |
| 7. | С. Гайшун | — 50 долараў |
| 8. | І. Чупрынскі | — 20 долараў |
| 9. | П. Зыбайла | — 20 долараў |
| 10. | В. Арашэўскі | — 5 долараў |
| 11. | К. Верабей | — 50 долараў |
| 12. | П. Мільяновіч | — 10 долараў |
| 13. | С. Жамойда | — 10 долараў |
| 14. | В. Сцецка | — 10 долараў |
| 15. | К. Мерляк | — 40 долараў |
| 16. | А. Шастак | — 20 долараў |
| 17. | С. Кірылік | — 20 долараў |
| 18. | М. Казлякоўскі | — 20 долараў |
| 19. | Г. Жымбалік | — 40 долараў |
| 20. | В. Стаўпецкі | — 10 долараў |
| | Усяго | — 575 долараў |

**(Пяцьсот семдзесят пяць долараў ЗША)**

**КЛОПАТЫ З ГІСТОРЫЯЙ**

**— Многа месца прысвячаеце ў вашай газеце („Głos znad Niemna" — рэд.) гістарычнай тэматыцы, што не заўсёды сустракаецца з прыхільнасцю беларусаў.**

— Не імкнемся да сварак з беларусамі, наадварот, хочам будаваць нашы стасункі на гістарычных фактах. Але не можам маўчаць, калі некаторыя прадстаўнікі гэтага спакойнага народа, у большасці прыхільнага нам, прабуюць называць палякаў „акаталічанымі" беларусамі. Тлумачым, што мы, палякі, ад вякоў жывем на гэтых землях і не намерваемся паланізаваць беларусаў або прысвойваць іх нацыянальную культуру. Не можам таксама маўчаць, калі хтосьці такім спосабам чыніць спробу фальшаваць гісторыю гэтых зямель.

**Яўген Скрабоцкі**, рэдактар гродзенскай польскамоўнай газеты „Głos znad Niemna" ў інтэрв'ю для „Rzeczypospolitej"

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 378

# Галіна Тварановіч

## Маленне над Айчынай

* * *

Абпаленая і перасохлая
у ілжывай бясконцасці
тлумнага дня
зацята шукаю адзінае месца,
дзе яшчэ можна жывою вадою
душу наталіць —
імкнуся ў засень Крыжа.

* * *

Неўпрыкмет выспеў час,
калі ў кожным сваім дні
сцішана-вінавата выглядаю
зялёны атожылак вечнасці,
такі даверлівы, кволы,
а пагарджаны, змучаны
плоймай маіх жа памкненняў —
няўдзячных росшукаў
на
шорсткіх шляхох, камяністых
палетках,
дзе адно пустазелле вольна буяе
пад пільнай аховаю драпежных
птушак...

### ЗЯМЛЯ

Апякуюць анёлы калыску
Бацькоўскіх надзей і трывог.
Вялікаснай міласцю
дбайна агледжаны
лапік Сусвету.
Хрыстовай крывёю асвенчаны
у зорную Існасць парог.

### ВЯЛІКДЗЕНЬ

Вясновае зямлі гучанне.
Ціхая ралля маёй слязы.
І зноў прыйшла пара.
Пара завершыць Лёс.
Злучыць два берагі.
Ідзе, ідзе Хрыстос!

* * *

Углядаюся ўглыб свае душы,
зашчэмленай жарнавамі тугі.
Цемраю сонечны дзень
перацяты,
Паволі
гасну
і быццам
знікаю,
але ж яшчэ знаю,
што
усё існае нараджаецца ў пакуце,
бо аднойчы,
— і мяне ратуючы, —
быў раскрыжаваны
самы светлы ў Сусвеце
Чалавек...
І вось Ён падыходзіць да мяне.
Клапатліва аглядае лампаду
майго быцця.
...Нараджаецца лагода.
Асанна!

* * *

Ніцма.
Лямант душы апаў.
Скруха слязою сплыла.
У Храме.

* * *

Ажыла званіца
над стольным Менскам.
Анёльскіх хораў
галасы
імкнуць увысь
узнесці горад.

* * *

Пасля,
ужо пасля ўсяго,
як выпарыцца кропелька
майго нясмелага жыцця,
пазнаю я, што розніцы няма
паміж бурліваю вясною
і ціхай восені хадою,
бо ўсё — нат век — імгненне,
водбліск зорнае стыхіі.
І мы спяшаемся, ляцім
у неўміручыя прасторы —
бясконцасць вечнага быцця.

* * *

Дзень да дня
і вось яшчэ адна
слязой амытая прыступка —
шчырая выява вернасці
жыцця, ізноў здабыўшага сабе
працяг зямной сцяжыны
сваёй даверлівай мальбою
у светлае, ціхмянае журбе...

### У ХРАМЕ

Свячы гарачую слязу,
духмяны жар васковы
і жар вільготны пачуцця
прыкмецяць чуйныя анёлы.
І долу ані кроплі не падзе
са шчырага твайго памкнення —
твае ўзнёслае душы малення...



# Янка Целушэцкі



### КАЛІ СПЯВАЕ САЛАВЕЙ

Міхась дужа любіць слухаць птушак. У іх спеве ён, здаецца, чуе і ціхі летні дождж, і шалясценне дрэў, і журчанне ручайка. У іх голасе столькі ласкі, дабра ды чагосьці светла хвалюючага...

Асабліва захапляў яго салаўіны пошчак. У вольную хвіліну ездзіў ён над раку Нараўку. Там, ля кустоў лазняку, сядаў на цёплай, добра нагрэтай за дзень зямлі, удыхаў мядовы пах лугу і слухаў, слухаў...

Чароўныя гукі крылатага маэстра! У ягоным спеве і свіст, і раскат, і бубен, і дудка лесавіка...

### АТОС

Я часта наведваюся ў родную вёску. Цікавыя бываюць сустрэчы. Чорны, з рыжымі падпалінамі на лапах і пад шыяй калмаценькі сабачка ахвотна вартуе дом маіх бацькоў, гаўкае на кошку, ледзь не роўную з ім па росту, і на задаваку-пеўня з вялікім чырвоным грэбенем і моцнымі шпорамі. Крыху пабойваецца, але гаўкае, бо што ж ты за сабака, што з цябе за вартаўнік, калі голасу не падаеш!

Вяртаецца са школы ўнучак Ярэк, і мы з ім удосталь бегаем і дурэем. Атос так і прытойваецца з пакладзенай на лапы галавою, каб зараз жа сарвацца і ляцець наўздагон.

Зімой, бывала, яны куляліся ў мяккім снезе. Атос, праваліўшыся ў глыбокую гурбу, мужна з яе выбіраўся і радасна цяўкаў. На дварэ ў бойкі з сабакамі, нават меншымі за сябе, не лез, дарма голасу не падаваў, але не мог адмовіць сабе ў прыемнасці пагнацца за катом і ўстурыць яго на дрэва або на бліжэйшы плот.

Атос вельмі любіў вячэрнія прагулкі са мной. Клаў мне лапы на калені, паціхеньку цягнуў з рук газету і прыносіў боты, выклікаючы на прагулку.

Але здарылася найгоршае. Чарговыя праводзіны Ярка ў школу сталіся для Атоса апошнімі. Не паспеў ён адскочыць на пабочыну дарогі... Мы з Ярэкам узялі калматага на брызент і завезлі на пахаванне ў лес.

### ВЯСЕННЯЕ

Вясна зноў падарыла дрэвам адзенне. Зялёным полымем гараць лугі. Сонца сцеле лотаць ля ракі. У кустоўі свішча салавей, кукуе зязюля-вяшчунка. Ля дарогі ляціць матылёк светлажоўтага колеру — крушыннікa.

На ўзлессі зноўку зірнулі на свет пралескі ды ландышы. Пачынаюць квітнець сады. Паветра напоена пахам чаромхі і бэзу. Над духмянымі кветкамі гудуць працавітыя пчолы.

У сваё кубло на старым дрэве вярнуліся даўтаногія буслы. На балоцістым лузе кугікаюць кнігаўкі. Усюды рух, гоман, спевы.

### ВЕЧАРАМ НАД РАКОЮ

Сонца хавалася за лесам. Я сядзеў у цяньку ў кустоўі на беразе ціхай рэчкі і пільна сачыў за паплаўкамі. Раптам слых мой улавіў лёгкі пошум. На супрацьлеглым, светлым беразе паявілася аднекуль стройная дзяўчына. На хвіліну яна прыпынілася, сцягнула з сябе вузкія джынсы, блузку, адшпіліла і кінула на кусцік ракіты бюстгальтар.

Трапяткое, сарамліва-радаснае пачуццё ахінула мяне. Не адрываючы вачэй, міжвольна глядзеў я на яе пухла-прываблівы стан, на каптурыкі грудзей.

Зусім як маці нарадзіла яна ўвайшла ў ваду, гнутка стулілася — і, скалыхнуўшы ваду, паплыла, падставіўшы грудзі пяшчотам бадзёрых і свежых хваль. Перад ёю ўзнімаўся і трымцеў вясёлкаю веер пырскаў. А калі нырнула і на момант знікла пад вадою, я здранцвеў. Вынырнула аднак хутка, борзда выскачыла на пясок ды спакойна і здаволена пачала выцірацца.

Я не кранаўся з месца — знямелы, узрушаны яе маладой прыгажосцю. А дзяўчына як скора з'явілася, так скора і знікла. Нібы расплылася ў зіхотным сонцы.

Рыба не клявала.

 

## Давайце перапісвацца!

*23 студзеня г.г. па мінскаму радыё прагучэла перадача з цыкла „Родная мова“, у якой расказвалася аб беларусах на Беласточчыне. Аўтары радыёперадачы звярнуліся да слухачоў з прапановай наладзіць ліставанне з суайчыннікамі з Польшчы. У адрас Дома радыё ў Мінску сталі прыходзіць лісты ад зацікаўленых перапіскай. Па просьбе аўтара перадачы Рэгіны Гамзовіч друкуем адрасы асоб, жадаючых перапісвацца з беларусамі з Беласточчыны.*

**225080, Брэсцкая вобл., г. Высокае, вул. 40 год Кастрычніка, д. 1, Кавалевіч Наталля.** 15 гадоў, вучаніца дзесятага класа, вучыцца нядрэнна, любіць чытаць, вандраваць і музыку.

**243805, г. Бабруйск, завулак Янкі Купалы, д. 3, Слава Бокій.** Працуе на Мэблевай фабрыцы імя Халтурына. Цікавіцца гісторыяй свайго горада, любіць родную мову.

**220600, г. Мінск, вул. Артылерыстаў, д. 12, п. 198. Уладзімір Рачкоўскі.** 19 гадоў, студэнт Педінстытута, вучыцца на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта.

**231300, Гродзенская вобл., г. Ліда, вул. Таўлая, д. 35, кв. 9, Алена Абрамовіч.** 16 гадоў, вучаніца Лідскага педвучылішча, хоча пазнаёміцца з прыхільнікамі беларускай мовы ў Польшчы.

**211945, Віцебская вобл., Міёрскі раён, в. Чэрасы, Аляксандр Колбун.** 30 год, жанаты, трое дзяцей, працуе электрыкам у калгасе. Быў бы рады знайсці сябра ў братняй Польшчы, для якога родная мова заўсёды такой застанецца.

**210032, г. Віцебск-32, праспект Перамогі, д. 29, к. 2, кв. 25, Галіна Мірзашвілі.** 46 год, муж, трое дзяцей, працуе ў бальніцы. Жадае пазнаёміцца з беларускай сям'ёй з Беласточчыны.

**246008, г. Гомель, вул. Бочкіна, д. 157, кв. 1, Іван Краўцоў.** Студэнт-завочнік I курса Гомельскага універсітэта, 23 гады.

**222828, Мінская вобл., Пухавіцкі раён, в. Зорка, Саша Баравік.** 13 гадоў, хоча пазнаёміцца са школьнікамі-аднагодкамі.

**220113, г. Мінск, вул. Мележа, д. 4, кв. 466, Наталля Вальвачова.** 16 год, вучыцца ў 10 класе. „Ці знойдзецца ў мяне брат ці сястра на Беласточчыне?“, — пытае ў лісце.

**220001, г. Мінск, вул. Маскоўская, д. 7, кв. 61, Алена Русінова.** Вучаніца 7 класа, жадае перапісвацца з беларускай дзяўчынкай з іншых краін свету.

**220131, г. Мінск, вул. Мірашнічэнка, д. 9, кв. 24, Ірына Трафімовіч.** 15 гадоў, вучаніца 9 класа, жадае знайсці сяброў у Польшчы.

**220115, г. Мінск, завулак Каржанеўскага, д. 10, кв. 27, Вікторыя Аляксеева.** Працуе ў школе настаўніцай працоўнага выхавання, жыве з сынам Алесем, якому 12 гадоў.

**220600, г. Мінск, праспект Дзяржынскага 83, корп. 8, Валерый Пашкевіч.** Лекар, 28 гадоў, хоча перапісвацца з сябрамі па прафесіі.

**211440, г. Наваполацк, вул. Якуба Коласа, д. 6, кв. 153, Людміла Пронічава.** 40 гадоў, вышэйшая адукацыя, працуе гідам, хоча перапісвацца з беларусам з Польшчы.



## Свойскія малюнкі



*Царква ў Супраслі. Малюнак У. Петрука.*

## Замалёўкі з жыцця

### ПЕРАВЯРНУЎСЯ

— Перастань піць, Мікола, — дакарае старая Дарка суседа, — гэта грэх. Вось бачыш, ужо і жонка цябе кінула, і дзеці ўцякаюць, калі цябе бачаць.

Мужчына маўчаў, хаця абрыдла ўжо яму гэта слухаць. Ён ведаў, што найлепей выпіць, тады і галава спакойная.

Сёння, як быццам нічога не было, лёг спаць.

Прыснілася яму, што прыйшла высачэзная жанчына.

— Хадзі, — сказала і ўзяла Міколу за руку, — пойдзем да Ігната. Хадзі і нічога не думай! — гнеўна ўскрыкнула, убачыўшы ягоную няўпэўненасць.

Мікола спужаўся. Ігнат — іх кампан ад чаркі памёр год таму.

Жанчына вяла яго ўніз. Крок за крокам падалі ў дол. Штораз бліжэй было чуваць пах серы.

Раптам Мікола ўбачыў мураваную сцяну, да якой прыкаваныя былі ланцугамі людзі. Чэрці паролі іх віламі і сілай лілі ў рот вадкасць. Упіхалі ў рот дохлых мышэй і жаб. Мікола ўспацеў.

— Ты чаго стаіш?! — крыкнула жанчына. — Мы прыйшлі Ігната адведаць! — пхінула Міколу ўбок і, калі б не злавіла за каўнер, зваліўся б у ваду.

У вадзе ўжо сядзелі людзі, пераважна мужчыны, таксама прыкаваныя ланцугамі да сцяны. Мікола пазнаў Ігната.

— Ты тут мучышся, дружа?

— Так, і то яшчэ як! Не пі, Мікола, не пі. Маліся ты Богу і памагай сваім старым суседкам. Тады пойдзеш у рай. Як будзеш піць, трапіш у найгоршае пекла, так як і я. Ты...

Тут як не штурхне яго чорт у бок віламі, што аж бедны Ігнат завыў.

Мікола вырваўся з рук жанчыны і кінуўся наўцёкі. Упаў. Адчыніў вочы — а ён на зямлі. Толькі з ложка ўпаў.

Прыпомніў усё, што здарылася. Стаў на калені, згаварыў малітву, пасля пайшоў да старой Тэклі.

— Можа вам, цётачка, дроў нарубаць?

— А што табе даць за гэта? Можа, віна?

— О, не! Зрабіце мне яешню!

Дзіваваліся суседкі, што гэтак адмяніла Міколу.

Вечарам прыйшоў Косцік.

— Ты чаму, Мікола, не прыйшоў да нас? Вася зарабіў трохі грошай і ўсім паўлітры паставіў.

— Я піць не буду.

— Чаму?

Мікола расказаў Косці, як да Ігната ноччу ў госці хадзіў.

— Дзівак ты, — засмяяўся сябрук. — Табе ўсё прыснілася!

— Можа і так, — згадзіўся Мікола. — Ідзем, вып'ем. Хопіць у мяне грошай на два піва.

**Аўрора**

# Пра Беларусь і беларусаў у „Więzi”

Быў час, калі „Ніва“ давала рады адзначаць амаль усе публікацыі ў польскай перыёдыцы, якія закраналі беларускія тэмы. Магчыма было нават, акрамя звыклага агляду, змяшчаць і палемічныя занатоўкі. Вялікім прыхільнікам гэткага падыходу да польскай беларусікі быў Сакрат Яновіч, які сам і пастаўляў рэдакцыі большую частку ніўскіх водгукаў на падобнага тыпу публікацыі. Зараз ён гэтага не чыніць (шкада!), разгублены, мабыць, колькасцю і якасцю польскамоўнай беларусікі. Бо й сапраўды, за апошні год-паўтара заслона маўчання разарвалася і на Беларусь — гэтую своеасаблівую terra incognita — кінуліся кагорты адкрывальнікаў з мікраскопамі і тэлескопамі даследаваць невядомую флору і фауну беларускага палітычнага, грамадскага, культурнага, эканамічнага і рэлігійнага жыцця. Немагчыма ўсё прачытаць (няма на гэта часу і грошай), немагчыма асэнсаваць хаця б толькі самыя значныя публікацыі (няма часу), немагчыма напісаць пра іх хаця б толькі інфармацыйна (няма месца ў „Ніве“). Каб зразумець маштаб з'явы, хопіць крышку падумаць над наступным: за апошні год мне ўдалося сабраць у свой прыватны архіў звыш дзвюх соцень публікацый з блізу трыццаці польскіх газет і часопісаў толькі пра палітычны аспект жыцця беларусаў Беласточчыны. На іншыя аспекты папросту не стае грошай з майго журналісцкага заробку. А што тут казаць пра польскія публікацыі наконт усіх вышэй згаданых аспектаў жыцця ў падсавецкай Беларусі?!

Банальна будзе сказаць, што чым больш публікацый пра беларускую справу, тым лепш для яе. Ведаць не заўсёды азначае разумець, але — гэта несумненна — без ведання няма разумення. А зразуменне, як мага больш шырокае, цэлага комплексу польска-беларускіх дачыненняў вядзе, у далейшай перспектыве, да ўзаемнага паразумення. Датычыць гэта і нас, звыклых чытачоў у Польшчы і Беларусі, якія найчасцей кантактуюцца на базарах Беластока і Гародні, датычыць гэта і дзяржаўных мужоў, якія спатыкаюцца ва ўтульных кабінетах або пышных залах дыпламатычных і дзяржаўных устаноў Мінска і Варшавы. Інфармацыя ёсць першаасноўным чыннікам, які спрычыняе рух у гандлі і дыпламатыі. Разумеюць гэта ў нашым Міністэрстве замежных спраў і таму, між іншым, уважліва чытаюць і вывучаюць „Ніву“ (да чаго прызнаюцца ў нашумелым рапарце-нататцы аб польска-беларускіх дачыненнях ча Беласточчыне). Разумее важнасць прэсавай інфармацыі і шэф цяперашняй палітычнай паліцыі ў Польшчы, заяўляючы ў адным з інтэрв'ю, што ахова дзяржавы патрабуе карпатлівага вывучэння прэсы ў значна большай ступені, чымсьці бліскучых аперацый шварцэнегераў з пісталетамі і штылетамі.

Падкрэсліўшы, такім чынам, пажытак, які выплывае з чытання газет і часопісаў, я хачу звярнуць увагу шаноўных чытачоў „Нівы“ на матэрыялы, змешчаныя ў сёлетнім лютаўскім нумары часопіса „Więź“, што выходзіць у Варшаве. Гэта часопіс каталіцкага накірунку (зараз у Польшчы амаль усе часопісы маюць каталіцкі накірунак, але гэты адметны тым, што ён меў такі накірунак і пры камуністах), які не цураецца праблематыкі нацыянальных меншасцяў, што пражываюць у Польшчы. Зараз поле зроку варшаўскіх рэдактараў пашырылася і на ўсходнія дзяржавы-суседкі Найяснейшай Рэчыпаспалітай. Прапанаваны ўвазе нумар змяшчае падборку тэкстаў пра Беларусь і беларусаў, азагалоўленую агульна „Беларускі шлях да свабоды“. Горача намаўляючы ўсіх пазнаёміцца з цэласцю матэрыялаў у „Więżi“, я звярнуў тут увагу толькі на некаторыя з іх, каб, так бы мовіць, нагнаць смаку.

З размовы з апостальскім адміністратарам на Беларусі біскупам Тадэушам Кандрусевічам даведаемся пра размах каталіцкае акцыі ў БССР. У канцы 1990 года дзейнічалі 215 касцёлаў (75 адчынена за апошні год), 700 касцельных аб'ектаў чакае свайго адкрыцця. У рэстаўраванні абнішчаных касцёлаў дапамагаюць калгасы і дзяржаўныя прадпрыемствы. У Гародні адчынена каталіцкая семінарыя. Колькасць вернікаў-католікаў на Беларусі? Біскуп Кандрусевіч абвяргае міф пра 2,5-мільённую каталіцкую паству на Беларусі; лікам рэальным з'яўляецца 700 тысяч. У далейшай частцы размовы апостальскі адміністратар адносіцца да

 




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 37 —

Генерал Станіслаў Булак-Балаховіч на чале створанай ім добраахвотнай арміі пранікаў у тыл бальшавіцкіх войскаў і выклікаў там паніку і хаос. Калі польскія войскі адступілі пад Варшаву, падраздзяленні ген. Балаховіча заставаліся ў далейшым на Крэсах — на Палессі і Валыні, перашкаджаючы ў бальшавіцкіх аперацыях, а ў часе адступлення Чырвонай арміі памагалі разбіваць дэзарганізаваныя баявыя савецкія падраздзяленні.

Спозненым рэхам беларуска-бальшавіцкіх баёў было слуцкае паўстанне. На Случчыне ўзнік мясцовы самаўрад. Павятовая беларуская рада ў Слуцку, якую падтрымлівалі саветы, стварыла павятовую міліцыю, у якую ўвайшлі беларусы, настроеныя, як правіла, антыбальшавіцка. Якраз гэта міліцыя сталася цэнтрам паўстанцкага руху.

Пасля заключэння польска-бальшавіцкага перамір'я былыя саюзнікі польскай арміі — ген. Балаховіч, Перамыкін і армія Украінскай народнай рэспублікі (атаман Пятлюра), перайшлі польска-савецкую дэмаркацыйную лінію і распачалі самастойныя ваенныя антысавецкія дзеянні.

Скарыстала з гэтага Беларуская рада ў Слуцку, якая намерылася выклікаць масавае антыбальшавіцкае паўстанне на ўсёй Беларусі. З думкай аб гэтым скліканы быў з'езд Слуцкага павету. З'езд гэты пастанавіў весці мясцовую барацьбу з бальшавікамі з мэтай стварыць незалежную беларускую народную рэспубліку. Галоўнай уладай з'езд прызнаў Беларускую Найвышэйшую Раду (якая ўжо не існавала), а для кіравання рухам на Случчыне стварыў Слуцкую раду з Пракулевічам на чале.

Улады прыступілі да вярбоўкі і арганізавання войска, зародышам якога была ўжо ўспомненая міліцыя. Такім чынам узнікла першая беларуская т.зв. слуцкая брыгада, якая налічвала каля 4000 салдат. Камандзірам брыгады быў назначаны Андрэй Якубецкі, а намеснікам Заўрыд. Як аказалася пазней, адзін і другі знаходзіліся ў кантакце з бальшавікамі.

Першая „Беларуская слуцкая брыгада", умацніўшыся ў слуцкім рэгіёне, перайшла далей на ўсход на некалькі дзесяткаў кіламетраў, дзе яе прыхільна вітала мясцовае насельніцтва.

Далейшаму развіццю паўстання перашкодзіў, з аднаго боку, недахоп зброі, а з другога, тое, што бальшавіцкія войскі прыціснулі падраздзяленні Балаховіча, Перамыкіна і Пятлюры да дэмаркацыйнай лініі і прымусілі іх перайсці на польскі бок, дзе яны былі раззброеныя.

Разгром Балаховіча дазволіў савецкаму ўраду кінуць супраць Першай беларускай брыгады 8 і 17 дывізіі, у выніку чаго паўстанцы былі разбіты, разагнаны і прымушаны перайсці праз мяжу ў Польшчу, дзе польскае войска іх раззброіла і інтэрнавала.

Слуцкае паўстанне было першым самастойным выступленнем беларусаў у барацьбе за нацыянальную незалежнасць.

Партызанскі беларускі рух прадаўжаўся ў 1920 і 1921 годзе і прычыняў бальшавікам не мала клопатаў. Нарэшце, бальшавікі гэты рух зламалі, стасуючы бязлітасны тэрор і правакацыі.

Развал арміі Балаховіча быў выкліканы эсэрамі і савінкоўцамі. Эсэры, заключыўшы дамоўленасць з камуністамі, імкнуліся ліквідаваць усе антыбальшавіцкія арганізацыі і паўстанні, якія пачаліся ў часе паходаў генерала Балаховіча.

*(Працяг будзе)*

---

пытанняў аб польскай і беларускай мовах у касцельным ужытку.

„Беларускі каляндарыум" — гэта лапідарная хроніка самых значных падзей у беларускім грамадска-палітычным жыцці ў 1900-1990 г.г. Матэрыял надзвычай карысны ва ўсіх адносінах.

„Беларускі шлях да свабоды" А. Глябовіча і „Цяжкое адраджэнне" А. Магдзяк-Мішэўскай — гэта тэксты, якія для пастаянных чытачоў „Нівы" не будуць неспадзяванкамі ні з увагі на фактаграфію, ні з увагі на інтэрпрэтацыю, але цікавыя тым, што ілюструюць даволі добра сучасны стан „распрацоўкі" беларускай праблематыкі ў Польшчы: кампетэнтнасць, сарыентаванасць, сапраўдная зацікаўленасць.

Лодзінскі мастак Мікола Давідзюк у тэксце „Беларускія непадцэнзурныя публікацыі" характарызуе самвыдатаўскую актыўнасць на Беласточчыне і ў Беларусі.

Сакрат Яновіч (лідэр беларускіх нацыяналістаў у Польшчы, як характарызуе яго маскоўская „Праўда") дае аналіз нацыянальна-эканамічнай сітуацыі беларусаў на Беласточчыне і ставіць прагнозы на будучыню. Звяртаю асаблівую ўвагу чытачоў на гэты тэкст, бо з'яўляецца ён дакладам старшыні БДА, прадстаўленым на нашумелым кастрычніцкім сімпозіуме ў Белавежы, які ў ацэнцы і Варшавы і Масквы стаўся пачаткам агульнабеларускай крамольнай змовы супроць інтарэсаў Польшчы і Расіі на беларускім арэале. Я асабіста трактую гэты тэкст Яновіча як аптымістычны ў сваіх фінальных высновах (аптымістычны для беларускай справы на Беласточчыне), але накідаць гэты погляд усім не хачу. Хай чытаюць усе і мяркуюць па-свойму.

Аналізам беларускай палітыкі на Беласточчыне заняўся Марэк Зюлкоўскі (той самы, што супольна з Б. Скарадзінскім рэдагаваў рубрыку „Справы пабрацімаў" у „Тыгодніку Беластоцкім" і „Плюсе"). Несумненна, М. Зюлкоўскі быў чалавекам найбольш сарыентаваным у гэтай праблематыцы (чаго не скажаш пра аўтараў таго скандальнага рапарту МЗС). Ён жа, у адрозненне ад С. Яновіча, прарочыць беластоцкім беларусам цёмную будучыню (як казаў Міцкевіч, ciemno wszędzie, głucho wszędzie), калі яны надалей будуць арыентавацца на ўласны грамадска-эканамічны патэнцыял. Як лічыць малады беларускі палітык Алег Латышонак, „ён нас распрацаваў дакладна".

На гэтым хацелася б закончыць агляд. Агульная рэфлексія: зараз ужо ў адносінах да палякаў не стасуецца вызначэнне С. Яновіча, што, маўляў, „мы ведаем пра іх усё, а яны пра нас нічога". Сам аўтар гэтай фразы прызнаўся мне нядаўна, што ў сучасны момант польскія спецыялісты ў праблематыцы нацыянальных меншасцяў могуць пісаць ужо псіхалагічныя аналізы аперацыйнага прызначэння для афіцэраў палітычнай паліцыі наконт таго, як дапытваць беларуса, літоўца або ўкраінца, улічваючы ўсе тонкасці нацыянальнага характару вышэй згаданых...

**Ян Максімюк**

---

# Успамін пра Станіслава Шушкевіча



Спадзяюся, што ўсе, хто чытае „Ніву", а асабліва „Зорку" для дзяцей, ведаюць, кім быў Станіслаў Шушкевіч. Зараз яго ўжо няма. Аднак тое, што пакінуў у беларускай літаратуры, будуць чытаць і будучыя пакаленні.

Нядаўна мы яшчэ перапісваліся. І нават адзін раз размаўлялі, хаця тады фактычна гэтая размова не атрымалася. Было гэта ў Мінску, у пачатку сямідзесятых гадоў, калі я таксама была ў Радашковічах, у першай жонкі Браніслава Тарашкевіча — у Веры Андрэеўнай. Гэта яна мне параіла зайсці ў Мінску да Станіслава Шушкевіча, таму што ён можа што-небудзь сказаць пра Тараса і пра тое, што з ім адбывалася ў 1937 годзе. **У той час ён** мне нічога не сказаў. І толькі тады, калі пачалася галоснасць, даў адказ на маё пытанне. Чытаючы **яго** ліст з 1988 г., можна зразумець, колькі і што ён перажыў. Ніжэйшы ліст Станіслава Шушкевіча, гэта **важны дакумент,** важны і для біяграфіі Тарашкевіча і ўвогуле для высвятлення таго, што адбывалася ў 1937 г. у Мінску.

**Вось яго ліст да мяне.**

*26 сакавіка 1988 г.*

*Паважаная Аляксандра!*

*Дзякую за ліст, за добрае слова і памяць. Вы былі ў нас тады, калі нельга было гаварыць праўду, калі трэба было прыслухоўвацца, хто стаіць за дзвярыма. Я быў у старой турме, у напоўпадвальнай камеры. Нас было чацвёра. Адзін з іх быў польскім камуністам, які, як было відаць, пабываў у турмах Польшчы і нашых. Ён умеў перастуківацца, размаўляць праз сцяну. Я быў у пятнаццатай камеры, а ў шаснаццатай быў Браніслаў Адамавіч. Здаецца гэта было ў пачатку чэрвеня 1937 года. Даведаліся, што Б. А. прыйшоў увесь збіты. Б. Т. сказаў, што жывым не застанецца, што ў яго бялізна ў крывавых плямах, што дагадваецца, што яго зноў павязуць у Маскву.*

*За шэсць месяцаў майго прабывання ў страшнай адзіночцы, а пасля ў „нумары на чатырох" на мне сатлела ўся вопратка. Аднойчы мне загадалі сабраць сваю бялізну і вопратку і павялі мяне ў лазню. На падворку ад чыстага паветра я „ап'янеў" і страціў прытомнасць. Прачнуўся ноччу на бальнічным ложку. У пачатку кастрычніка 1937 года нас, дванаццаць пісьменнікаў, судзілі, дзесяці асобам далі па дзесяць год зняволення, а мне адкроілі восем. Завезлі мяне з маімі калегамі ў Кемераўскую вобласць у Новаіванаўскае аддзяленне Сіблага. Працаваў шахцёрам, капаў калодзежы, пасля быў цесляром, матарыстам на камбайне і нарэшце знайшоўся добры начальнік і прымусіў мяне працаваць бухгалтарам. Спачатку быў бухгалтарам балансавай групы, а пасля — старшым бухгалтарам жаночага аддзялення, дзе было многа жонак вядомых камуністаў, дзяржаўных кіраўнікоў. Можа і Вы былі ў гэтым аддзяленні?*

*У 1946 годзе вярнуўся дадому, працаваў настаўнікам у сярэдняй школе ў вёсцы Данілавічы. Неўзабаве мяне зноў арыштавалі і саслалі ў Краснаярскі край. Працаваў лесарубам, плытагонам, цесляром, пасля работнікам Ангарскай геалагічнай партыі.*

*Частка маёй сям'і вандравала разам са мною. У 1956 вярнуўся ў мой родны Мінск. Я член Саюза пісьменнікаў СССР з 1934 года, член камуністычнай партыі. А можа і Вы былі ў жаночым аддзяленні Новаіванаўскага аддзялення Сіблага?*

*У гэтым годзе выйдзе том маёй выбранай паэзіі і невялічкая кніжачка апавяданняў пра Героя Савецкага Саюза, юнака Казея Марата.*

*Здароўя, выдатных творчых поспехаў жадаю вам*

*СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ*

Ад Станіслава Шушкевіча я таксама даведалася, што ў Браніслава Тарашкевіча ў 1937 годзе ў Мінскай турме забралі акуляры. І ён як вельмі блізарукі без акуляраў амаль нічога не бачыў.

Не цяжка зразумець, што так званыя следчыя, а фактычна забойцы, такім чынам маглі пісаць пра яго, што толькі хацелі...

Чытаючы ліст С. Шушкевіча, асабліва яго перадапошнія словы, могуць яны некаторым чытачам паказацца незразумелымі. Столькі перажыць і... застацца камуністам?

Я думаю інакш. Ён многа зразумеў і ведаў, што за „сацыялізм" праводзіць Сталін. Але... Шушкевіч хацеў, **вельмі хацеў быць у Беларусі, і ў Беларусі быць яшчэ пісьменнікам. Ён** разумеў, што толькі такім чынам можна вярнуцца ў Мінск і пісаць.

**Аляксандра Бергман**

P.S. Гэты ліст С. Шушкевіча не толькі дае адказ на мае пытанні аб яго жыцці. Некалькі ягоных слоў пра Б. Тарашкевіча **гэта дакумент,** амаль самы важны аб ім. Пішу аб гэтым таму, што ў апошні час пра Б. Тарашкевіча пішуць даволі многа не толькі ў Беларусі, але таксама і ў Польшчы. Але як пішуць? Пішуць цалкам дзіўна, недарэчна і аб яго жыцці і аб яго смерці, не так, як у лісце Шушкевіча. У ім жа чалавек **правярае,** як гэта адбывалася. Таму хачу яшчэ дадаць пра другі дакумент адносна смерці Тарашкевіча.

У сямідзесятых гадах у Вільні можна было прачытаць тэкст прыгавору Браніслава Тарашкевіча, у якім афіцыйна напісана наступнае: **„...Приговорен Ревтрибуналом к расстрелу. Приговор приведен в исполнение 29 ноября 1938 года.** Впоследствии обвинение снято как необоснованное".

**А. Б.**




## ЯК ЖЫЦЬ ДАЛЕЙ?

У мінулых гадах чырвоная буржуазія старалася зраўняць вёску з горадам, цяпер белая буржуазія стараецца зраўняць вёску з зямлёй. Памятаю я вельмі добра часы камуністычнай улады. Яны парабілі добрыя дарогі, пабудавалі масты, крамы па вёсках. Па вясковых дарогах паехалі аўтобусы. Было добра ўсім, старэйшыя жанчыны планавалі нават закупіць абедню ў гонар Герка, які даў сялянам пенсіі.

Цяпер вясковыя крамы стаяць пустыя. Сяляне-пенсіянеры вымушаны па 5 кіламетраў дабірацца да найбліжэйшай крамы, каб купіць сабе хлеба. Часта ім ужо па 80 і больш гадоў. ГСы паміраюць натуральнай смерцю, бо не могуць выплаціць дзяржаве падаткаў. У нашай гміне Нарва — па 10 тысяч злотых за 1 квадратны метр зямлі. Пра тое, хто і як забяспечыць сялян штучным угнаеннем, часткамі да сельскагаспадарчых машын, ніхто не дбае. Гаворыцца толькі: прыватызацыя і суполкі. Не думаюць нашыя ўлады, як будзем жыць заўтра.

Сапраўды, мне здаецца, што тут не пабудуем Японіі, а ўлады такой палітыкай могуць давесці да пятага разбору Польшчы, якая невядома ці пасля гэтага аджыве.

Цяперашнія ўлады стараюцца ўсіх камуністаў адсунуць ад улады, прыспяшаюць выбары ў парламент, змяняюць назвы вуліц, выкладаючы мільярды злотых у пясок, а людзям нічога добрага не робяць. У гміне Нарва, дзе натуральнай смерцю памірае ПОМ, няма работы, беспрацоўных усё больш, а дзе ўзяць грошы на засілак ім?

Сенатары і паслы шмат гавораць аб забароне аборцыі, трацячы час, а не думаюць, як палепшыць жыццё ўжо жывучым.

І таму, замест таго, каб стаць японцамі, застанемся мы, здаецца, арабамі...

**М. Лук'янюк**




### НЕВЯДОМЫЯ ЛІТАРАТУРЫ

Ян Максімюк па просьбе даследчыцы польскай літаратуры прафесар Яланты Брах-Чаіны склаў *„нешта накшталт спіску пазіцый з беларускай літаратуры, якія маглі б увайсці ў праграму навучання літаратуры пачатковых школ і ліцэяў у Польшчы"*. Зрабіў гэта як мага найлепш, паводле сваіх магчымасцяў. Аднак, глянуўшы на гэты спісак, узнікла ў мяне пытанне: чаму ў іх няма Якуба Коласа, Віктара Шведа ці Алеся Барскага? Адказ насоўваецца сам па сабе: Ян Максімюк паслужыўся тут палітычным крытэрыем, адкінуўшы мастацкі. Бо ці ж фактычна „Беларусь, Беларусь" С. Яновіча з'яўляецца тым творам, які павінна засвоіць моладзь перад усімі іншымі ў беларускай літаратуры? І ці ж няма ў Польшчы спецыялістаў па беларускай літаратуры, якія больш сур'ёзна і прафесійна падыйшлі б да просьбы праф. Я. Брах-Чаіны?

**Міхась Махнацкі**

# Гарачы пленум

(Працяг са стар. 1)

і другая частка сходу — вечар, прысвечаны 35-годдзю БГКТ з канцэртам беластоцкіх самадзейнікаў і ўспамінамі дзеячоў.

На пачатку пленум заслухаў інфармацыю старшыні Галоўнага праўлення Аляксандра Баршчэўскага аб дзейнасці БГКТ. Затым голас узяў госць пленума пасол Яўген Чыквін, які паведаміў аб сеймавых працах над праектам „Закона аб адносінах дзяржавы да Праваслаўнай царквы". Другое чытанне праекта закона ў Сейме запланавана на 22-23 сакавіка і ў сувязі з гэтым звярнуўся з заклікам да членаў ГП даць падтрымку гэтай заканадаўчай ініцыятыве. Была створана камісія, якая апрацавала праект заявы. Прапанаваная камісіяй заява была адобрана ўсімі прысутнымі і даручана паслу Я. Чыквіну (тэкст заявы друкуем на 1 старонцы).

Дыскусія над інфармацыяй старшыні ГП не атрымалася. Удзельнікі пленума жадалі выслухаць перад гэтым пратакол з кантролю Галоўнага праўлення, праведзенага Галоўнай рэвізійнай камісіяй БГКТ. Голас узяў старшыня ГРК Уладзімір Юзвюк. У пратаколе пералічваліся недахопы ў дзейнасці Таварыства. Працаўнікі абвінавачваліся ў тым, што парвалі кантакт з гурткамі і праўленнямі аддзелаў, што не вядзецца культурна-асветная праца на вёсках і ў мястэчках, слаба распаўсюджваюцца беларускія календары і іншыя выданні. Кепска выкарыстоўваецца транспарт. Сакратару ГП Віктару Стахвюку ставіўся таксама закід, што надта ангажуецца ў дзейнасць Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. На канец было выказана сумненне наконт мэтазгоднасці ўтрымоўвання двух кіруючых штатаў у Галоўным праўленні і дадзена прапанова вызваліць з функцый намесніка старшыні ГП Аляксандра Іваноўскага і сакратара ГП Віктара Стахвюка.

Пратакол Рэвізійнай камісіі выклікаў многа эмоцый, а дыскусія засяродзілася амаль выключна на персанальных справах. Многія прамоўцы дамагаліся ад старшыні ГРК больш дэталёва абгрунтаваць закіды ў адрас Віктара Стахвюка і Аляксандра Іваноўскага. Разгарнулася гарачая дыскусія, а дыскутанты падзяліліся на дзве групы. Адны даказвалі, што ў БГКТ апошнім часам нічога не дзеецца і трэба памяняць кіраўніцтва арганізацыі, другія — бачылі свайго роду кансерватызм некаторых дзеячоў у падыходзе да працы Таварыства, паказвалі на патрэбу перабудовы структуры і форм дзейнасці Таварыства, стараліся абвяргаць закіды супраць штатных кіраўнікоў ГП. У ходзе дыскусіі старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі паставіў сваю асобу ў распараджэнне пленума і прапанаваў правесці галасаванне над вотум даверу да старшыні. Супраць галасавання над персанальнымі справамі выказваліся, між іншым, Фёдар Галёнка з Варшавы і Анна Іванюк з Гданьска, прапануючы разгледзець чарговыя пункты павесткі дня. Змучаная працяглай і гарачай дыскусіяй зала згадзілася пакінуць персанальныя сваркі і заняцца больш канкрэтнай справай.

У сувязі з гэтым, што ад працы ў Прэзідыуме ГП адмовіліся Сакрат Яновіч і Юрка Каліна, на іх месца былі ўведзены Канстанцін Майсеня — старшыня Камітэта пабудовы музея ў Гайнаўцы і Фёдар Галёнка — з Варшаўскага аддзела БГКТ.

У далейшым разглядалася справа надзвычайнага з'езда БГКТ. Паводле статута можна яго склікаць з дэлегатамі, якія былі выбраны на апошні XI з'езд Таварыства. Ці з'езд са старымі дэлегатамі гарантуе выпрацаванне рашэнняў, якія акрэсляць месца і ролю Таварыства ў новай рэчаіснасці? Многія прамоўцы даводзілі, што

**Да 130-годдзя з дня нараджэння Яфіма Карскага**

# СЛАВУТЫ СЫН ПРЫНЯМОННЯ

Людзі кажуць, што няма ніводнага куточка беларускай зямлі, які б не меў сваіх герояў, слаўных дочак і сыноў. Сярод іх у нашым цудоўным Прынямонні пачэснае месца займае імя Яфіма Карскага. Яно сярод тых імён, якімі беларускі народ справядліва ганарыцца, шануе, выкарыстоўвае плён іх працы. Я. Карскі сваімі навуковымі працамі як ніхто з дарэвалюцыйных вучоных падрыхтаваў глебу для вырашэння пытання аб прызнанні беларускага народа, як адной з самастойных славянскіх нацый. На аснове аналізу сабранага фактычнага матэрыялу акадэмік Я. Карскі паказаў, што беларускі народ існуе як нацыянальная адзінка, што ён мае, як і іншыя народы, сваю старажытную культуру, багатую мову, бытавыя традыцыі і бяздонную крыніцу вуснапаэтычнай народнай творчасці.

1 студзеня 1861 года, у сям'і настаўніка народнага вучылішча ў вёсцы Лаша, у гадавіну адмены прыгоннага ладу нарадзіўся хлопчык, якому па тагачасных звычаях, па календары, далі імя — Яфім. Тут малы Яфім убачыў свет, зрабіў першыя крокі, з вуснаў маці пачуў беларускае роднае слова, якому застаўся верным да апошніх дзён свайго жыцця.

Дзіцячыя гады Яфіма прайшлі ў Лашы, а затым у вёсцы Ятра Навагрудскага павету Мінскай губерні, куды пераехалі яго бацькі. Тут была вучоба. Пасля заканчэння Ятранскага народнага вучылішча, бацька Карскага, які не меў сродкаў, каб накіраваць здольнага сына ў гімназію, аддае яго ў духоўнае вучылішча ў Мінску. Пасля яго заканчэння Яфім Карскі паступае ў духоўную семінарыю, затым — у гісторыка-філалагічны інстытут імя князя Безбародкі ў Нежыне, дзе студэнты былі на поўным дзяржаўным утрыманні. Праз чатыры гады ён выдатна закончыў Нежынскі інстытут. Карскі мог сябе прысвяціць навуковай працы, рыхтавацца ў



прафесуру, але, жадаючы дапамагчы родным, заняў пасаду выкладчыка Віленскай гімназіі.

Беларус па паходжанні Я. Карскі праяўляў асаблівую цікавасць да вуснай паэтычна-песеннай творчасці беларускага народа, яго мовы, культуры. У песнях ён адчуваў дыханне народа і жыў яго імкненнямі. Яшчэ ў сценах Нежынскага інстытута пачалася яго навуковая дзейнасць. У 1885 годзе ў часопісе „Рускі філалагічны веснік" Я. Карскі змяшчае сваё першае даследаванне „Беларускія песні сяла Беразавец Навагрудскага павету Мінскай губерні".

Я. Карскі выдатна вытрымаў магістарскі экзамен і па асабістай просьбе быў пераведзены ў Варшаўскі універсітэт. У 1894 годзе назначаецца экстраардынарным прафесарам універсітэта на кафедры славянскіх моў і гісторыі рускай літаратуры. У апошні час Я. Карскі выкладаў славянскую палеаграфію, рускую дыялекталогію і граматыку старaславянскай мовы.

У варшаўскі перыяд сваёй педагагічнай дзейнасці, карыстаючыся ўсеагульнай павагай, Я. Карскі два разы выбіраецца рэктарам Варшаўскага універсітэта — у 1905 і 1908 гадах.

У час першай сусветнай вайны Я. Ф. Карскі разам з Варшаўскім універсітэтам эвакуіраваўся ў г. Растоў-на-Доне, дзе чытаў лекцыі да вясны 1916 года. У гэтым годзе яго абіраюць акадэмікам. Ён пераязджае ў Пецярбург.

У Пецярбурзе Я. Карскі працаваў у якасці члена праўлення Акадэміі навук, старшыні слоўнікавай камісіі, члена камісіі „Навука і навуковыя супрацоўнікі", рэдактара „Весці камісіі

такой гарантыі няма. Да чарговага з'езда астаецца ўсяго паўтара года, а на правядзенне справаздачна-выбарчай кампаніі патрэбна каля года часу. Вырашана тады прыспешыць чарговы з'езд і неадкладна пачаць перадз'ездаўскую кампанію.

Многа часу членам ГП заняла таксама праца над „Праграмнай дэкларацыяй Галоўнага праўлення БГКТ" (тэкст дэкларацыі неўзабаве надрукуем у „Ніве").

Апошняй справай, якую ўдалося разгледзець на пленуме, была справа далучэння БГКТ да Рады беларускіх арганізацый. Галоўнае праўленне адобрыла статут Рады, БГКТ будзе прымаць удзел у яе працах. Старшыня ГП заявіў, што на адным з першых пасяджэнняў будзе дамагацца ад Беларускага дэмакратычнага аб'яднання падач да публічнага ведама лісты, кіраваныя ў дзяржаўныя органы, у якіх ацэньваецца дзейнасць БГКТ. Дэлегатамі БГКТ у Раду беларускіх арганізацый выбраны: Аляксандр Баршчэўскі, Мікалай Мікалаюк і Валянціна Ласкевіч.

Пленум закончыўся а шостай вечарам. Пасля амаль васьмігадзіннага гарачага пленума ніхто ўжо не меў ахвоты на юбілейную вечарыну.

**В. Луба**

**(Працяг са стар. 1)**

хоўнай ніве і ў пабудове храма і парафіяльнага дома прыхаджане святадухаўскай парафіі ўшанавалі ахвяраваннем свайму душпастыру мітры. Уручалі гэты вянец падзвіжніцтва прыхадскі староста Яўген Буйка, член парафіяльнай рады Георгій Асташкевіч, прадстаўнікі Брацтва праваслаўнай моладзі. Дзякуючы за аказанае прызнанне, а. Г. Барэчка адзначыў вялікія заслугі арх. Савы і а. прат. Серафіма Жалезняковіча як ініцыятараў і нястомных старацеляў у пабудове храма і парафіяльнага дома.

Знешні і ўнутраны выгляд дома адпавядае арыгінальнай архітэктуры Святадухаўскага сабора.

— Пабудова пачалася ў 1985 г., першапачаткова гэта мела быць гасцініца, — праінфармаваў а. Г. Барэчка. — Прыхадскі дом збіраліся пабудаваць побач, нават ужо фундаменты падрыхтавалі. Аднак фінансавыя цяжкасці нашага прыхода і наогул Праваслаўнай Царквы ў Польшчы не дазволілі рэалізаваць гэтыя планы. Неабходна было ўсе сілы прыкласці ў пабудову гасцініцы і прыстасаваць яе на царкоўныя патрэбы.

У гмаху памяшчаюцца: хрысцільная, канцылярыя прыхода, дзве спецыяльныя залы на мерапрыемствы моладзі і дарослых прыхаджан, пакой для праваслаўнага пасла Сейма, канцылярыя ваяводскага аддзела Хрысціянска-грамадскай уніі, епархіяльная друкарня, два пакоі для гасцей, кватэра для свяшчэнніка, праваслаўнае турысцкае бюро і іншыя царкоўныя арганізацыі.

# У СВЯТАДУХАЎСКІМ ПРЫХОДЗЕ

— Пабудова вялася з 2-гадовым перапынкам, — заўважыў а. Г. Барэчка. — Большасць работ пры доме выканала наша парафія ў грамадскім пачыне. Ахвярнасць прыхаджан у нас вельмі вялікая. Клапаціліся мы ўсе разам, каб сабраць грош да граша, ды каб ніводзін грошык не пайшоў марна, а што толькі здолелі, усё рабілі сваімі рукамі. Пачаткова пры пабудове храма выдатна нам дапамагалі ахвяравальнікі з заходніх краінаў. На жаль, некалькі гадоў таму назад нашыя замежныя дабрачынцы спынілі сваю вельмі патрэбную нам дапамогу, і мы цалкам здадзены на саміх сябе. А працы яшчэ вельмі многа. Верхняя царква ў саборы яшчэ без унутранага тынку, падлогі, іканастаса і іншых абсталяванняў і неабходных працаў. Патрэбны яшчэ аграмадныя сродкі. Але мы не трацім надзеі на Гасподнюю дапамогу і шчодрыя сэрцы нашых прыхаджан і ўсіх нашых прыяцеляў і прыхільнікаў.

**Ігнат Снарскі**

Фота з архіву



па рускай мове", прафесара Пецярбургскага універсітэта, дырэктара музея антрапалогіі і этнаграфіі. У 1929 годзе Чэшская акадэмія навук выбірае Карскага правадзейным членам.

Я. Карскі з маленства цесна быў звязаны з жыццём сялянства, глыбока пранікаецца яго патрэбамі, робіцца палымяным прапагандыстам роднага слова. Побач са збіральніцкай дзейнасцю Карскі вельмі ўважліва сочыць за кожнай навінкай у галіне беларускага фальклору. Фальклярысты і этнографы ў асобе Карскага заўсёды знаходзілі маральную і практычную падтрымку. Ён з любоўю ўнікаў ва ўсе дэталі збіральнай дзейнасці, даваў парады. Яму належыць і першая праграма па збіранню народных гаворак беларускай мовы. Я. Карскі сістэматычна падтрымліваў цесную сувязь з віднейшымі фальклярыстамі і этнографамі: П. В. Шэйнам, М. Я. Нікіфароўскім, У. М. Дабравольскім, Е. Р. Раманавым, М. А. Янчуком, М. В. Доўнар-Запольскім, А. Я. Багдановічам, Я. Карловічам, М. Федароўскім і іншымі. Яго перапіска са збіральнікамі, асабістая дапамога, парады, праўка карэктур, рэцэнзіі на працы садзейнічалі плённай дзейнасці збіральнікаў народных скарбаў.

Я. Карскі часта прыязджаў на сваю родную Беларусь, у Прынямонне. Любіў свой народ, яго цудоўныя песні, прыроду. Асабліва падабаўся яму сінявокі Нёман, яго стромкія берагі, парослыя векавымі дубамі, меднаствольмі соснамі, стройнымі ёлкамі, красунямі бярозамі. Свой летні адпачынак праводзіў разам са сваёй сям'ёй недалёка Гродна ў вёсках Панямунь і Мігова. У гэтых вёсках пасля Мінявіч штогод адпачывала пісьменніца Эліза Ажэшка і вядомы фальклярыст Ян Карловіч. Сюды Карскі прыязджаў на адпачынак з Вільні, Варшавы, Пецярбурга.

З мэтай вывучэння этнагенезу з 1886 да 1905 года Я. Карскі асабіста наведаў і абследаваў 114 населеных пагранічных пунктаў Беларусі. Ён склаў этнаграфічную карту, устанавіў тэрытарыяльныя межы распаўсюджвання беларускай мовы. Я. Карскі ў самыя глухія пагранічныя куткі дабіраўся на фурманках, а часта і пехатой, каб пачуць народную гаворку. Стараўся пабываць на кірмашах у гарадах і мястэчках, на якія з'язджаліся сяляне з навакольных хутароў, вёсак, сёл. Прыслухоўваўся да іх гаворкі. Фіксаваў кожны моўны факт на паперу. Часта прыязджаў у Гродзенскую губерню. Летам 1896 года наведаў Гродна, быў у роднай Лашы. Вывучаў гаворкі вёскі Жукі, у якой жыў яго швагер Маркевіч (зараз у Польшчы). Наведваў населеныя пункты: Мігова, Ласосну, прыход Лабно побач Гродна, Балю Царкоўную, Галынку, Алекшыцы, Вялікую Бераставіцу, пас. Сапоцкін і іншыя.

З кожным годам пашыралася кола навуковых інтарэсаў Я. Карскага. Вучоны публікуе ўсё новыя артыкулы па беларускай мове, літаратуры і фальклору. Такім чынам у Карскага сабраўся неабходны фактычны матэрыял, выявілася патрэба ў яго абагульненні. І ён узяўся за сваю манаграфію „Беларусы", над якой працаваў больш 40 год.

Манаграфія „Беларусы" складаецца з 3-х тамоў, з якіх другі і трэці выходзілі кожны ў трох кніжках. Гэта шматтомная праца Я. Карскага сапраўды з'яўляецца энцыклапедыяй беларусазнаўства.

25 лютага 1919 года цэнтральны Выканаўчы камітэт Савета рабочых салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў пастанавіў адкрыць дзяржаўны універсітэт у г. Мінску. Для падрыхтоўчай работы па арганізацыі БДУ была створана камісія, якую ўзначаліў Я. Карскі. Для БДУ Карскі не пашкадаваў сваёй асабістай бібліятэкі, якая засталася ў яго пасля эвакуацыі з Варшавы.

Патрэбы жыцця і энергія нацыянальнага адраджэння Беларусі вымагалі стварэння ў Беларусі вышэйшай навуковай установы — Інстытута Беларускай Культуры. У сувязі з гэтым рад асоб заняўся апрацаваннем статуту будучага інстытута. Працаваў над складаннем яго і акадэмік Карскі ў Ленінградзе.

На працягу 48 год сваёй навуковай дзейнасці Я. Карскі напісаў: 96 кніг, 143 артыкулы, заметкі, 777 водзываў, рэцэнзій, анатацый, крытыка-бібліяграфічных звестак і некролагаў. Усяго 1016 прац.

Вялікі вучоны Я. Карскі аддаў усе свае сілы на службу навукі. 29 красавіка 1931 года, на 71-м годзе свайго жыцця памёр. Смерць застала яго за работай над параўнальным слоўнікам моў.

Славуты сын Прынямоння пахаваны ў Ленінградзе на Смаленскіх могілках, далёка ад сваёй роднай Лашы, але сцежка да яго магілы не зарастае. Вучні, настаўнікі Лашанскай школы імя Карскага і іншыя яго землякі наведваюць магілу выдатнага сына беларускага народа, кладуць яму з лашанскіх палёў жывыя васількі, якія ён калісьці любіў збіраць у жыцце.

Навуковая грамадскасць высока ацэньвае навуковую дзейнасць акадэміка Я. Карскага. Для грамадзян Гродзеншчыны імя акадэміка Карскага асабліва дарагое. Працоўныя Гродзеншчыны захоўваюць памяць аб сваім земляку. 19 снежня 1964 года ў Лашанскай школе адкрыты музей акадэміка Я. Карскага, а раней яшчэ на Лашанскай школе ўстаноўлена мемарыяльная дошка. З гонарам носіць імя акадэміка Карскага абласная бібліятэка. Яго імем названа адна з вуліц г. Гродна.

У музеі акадэміка Карскага экспануюцца асабістыя рэчы вучонага (партфель, настольная лямпа, лічыльнікі, чарніліца, прэс-пап'е, якар прэс-пап'е, ручка і крэсла). Ёсць скульптурны партрэт, выкананы гродзенскім скульптарам А. Ліпенем. Абсталяваны стэнды, якія адлюстроўваюць жыццёвы і творчы шлях акадэміка. Экспануюцца фотакопіі рукапісаў, успаміны дачкі вучонага, унучкі і акадэміка В. І. Баркоўскага. На адной са сцен — барэльеф Карскага. Захоўваюцца мікрафільмы дакладаў Карскага на чэшскай мове, якія прыслала Пражская АН. Мемарыяльны музей заснавальніка беларускага мовазнаўства і беларускай філалогіі ў рэспубліцы адзіны.

Шмат часу прайшло з той пары, калі малы Яфім, будучы вучоны, пакінуў разам з бацькамі сваю родную Лашу. Толькі рэчка Лашанка па-ранейшаму бяжыць па жвірочку, каменьчыках і сваёй ціхай гамонкай нагадвае нам аб мінулых днях сівой даўніны.

**А. Цыхун,**
заслужаны настаўнік БССР

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**17. Мадальныя словы.[1]**

*Мадальнасць* — гэта граматычная катэгорыя, якая выражае адносіны асобы да зместу выказвання і адносіны зместу выказвання да рэчаіснасці.

Мадальнасць у беларускай мове выражаецца марфалагічна (формамі абвеснага, загаднага і ўмоўнага ладу дзеясловаў) і лексіка-сінтаксічнымі сродкамі (інтанацыяй, парадкам слоў у сказе, часціцамі і мадальнымі словамі).

*Мадальныя* словы нязменныя. Яны не выконваюць намінатыўнай функцыі (не называюць прадметаў) і не з'яўляюцца членамі сказа. У сказе звычайна ўжываюцца як пабочныя словы і выдзяляюцца інтанацыйна: *На дварэ, праўда, было ўжо холадна.* (Бяд.) У дыялогу мадальныя словы ўжываюцца ў ролі слоў-сказаў: *„Хіба тут прымем бой?“ — „Магчыма“.* (Хадк.)

Мадальныя словы выражаюць адносіны асобы да рэчаіснасці. Паводле значэння, мадальныя словы падзяляюцца на дзве групы:

1. мадальныя словы, якія выражаюць упэўненасць, перакананне, сцвярджэнне таго, пра што гаворыцца ў сказе: *безумоўна, бясспрэчна, вядома, напэўна, натуральна, несумненна, зразумела, канечне, праўда, сапраўды*, напр.: *Дождж, безумоўна, прынясе больш карысці, чым шкоды.* (Шам.). *Бясспрэчна, гарады цяпер не такія, як да рэвалюцыі.* (Баг.), *Дрэвы, вядома, растуць павольна, марудна...* (В.В.), *Канечне, асушыць балота — не тое, што грэблю зрабіць.* (І. М.), *А пойдзеш з Ліпава лясамі, напэўна стрэнешся з ласямі.* (К-с), *Сапраўды, жыццё цяпер здавалася Валі надзвычай прыгожым і цікавым.* (Шам.);

2. мадальныя словы, якія выражаюць няўпэўненасць, сумненне, меркаванне: *відавочна, відаць, здаецца, мабыць, магчыма, можа, мусіць*, напр.: *Відаць, спрадвек цягнула чалавека ў нязнаны шлях, к чужым мацерыкам.* (Баг.). *Васіль, здавалася, быў увесь аддадзены свайму занятку.* (І.М.), *На невялікай палянцы вырасла, мабыць, болей за сотню грыбоў.* (К.Ч.), *Даніла, можа, у дзесяты раз за гэты вечар прыняўся выкладаць любімай свае довады.* (Саб.), *Мусіць няма на свеце лепшай асалоды, чым тая, якую дорыць душы чалавека песенны перадвячэрні лес.* (Кір.).

Мадальныя словы як асобны лексіка-граматычны разрад слоў гістарычна развіліся з розных часцін мовы. Многія з іх не страцілі суадношнасці з тымі часцінамі мовы, ад якіх утварыліся. Мадальныя словы суадносяцца:

— з назоўнікамі: *праўда, факт*, параўн.: *Садок быў, праўда, невялікі.* (К-с), і *Праўда даражэй за грошы.* (Прак.),

— з прыметнікамі кароткай формы, дзеепрыметнікамі, прыслоўямі: *безумоўна, бясспрэчна, відавочна, вядома, канечне, магчыма, напэўна, пэўна*, параўн.: *Вядома, яблык ад яблыні далёка не ўпадзе.* (Асіп.) і *Усім вядома, што адклад не ідзе ў лад.* (Бяд.),

— з дзеясловамі: *здаецца, здавалася, зразумела, можа, мусіць*, параўн.: *Лісце пад дрэвамі ляжала яшчэ жоўтае, і, здавалася, чалавечая нага яшчэ не ступала на яго.* (К.Ч.) і *Адзінокая гармата здавалася жывою істотаю.* (К.Ч.).

Як мадальныя могуць ужывацца словазлучэнні: *можа быць, можна думаць, можна меркаваць, можна сказаць, на самай справе, па праўдзе сказаць, па сутнасці, па ўсёй верагоднасці, трэба думаць, уласна кажучы* і інш., напр.: *Пытанне, па сутнасці, было ўжо вырашана.* (Шам.), *Зіма, трэба думаць, неўзабаве саступіць месца вясне.* (Мік.).

[1] Літаратура: Я. М. Адамовіч, Мадальныя словы, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф. М. Янкоўскага. Мінск 1980, с. 230-233; Беларуская мова пад рэд. А. М. Клачко, ч. 1, Мінск 1982, с. 322-325; T. Jasińska-Socha, J. Głuszkowska, Skrypt do zajęć praktycznych z języka białoruskiego, Warszawa 1985, s. 80-86.




У адну ноч сніліся мне два кепскія сны. Першы сон. Быццам даведалася я, што памёр мой швагер. Мы з адной сяброўкай з працы ідзем нібы ў трупярню, каб убачыць яго, але ўсё трапляюцца нам нейкія доўгія, бясконцыя проста калідоры, нейкія закамаркі. Усе яны цёмныя, непрыемныя, і мы ніяк не можам трапіць да памершага. Так мы яго і не ўбачылі. Але я ведаю, што ён памёр.

Другі сон. Быццам ідзем мы са сваёй мачыхай па вуліцы горада, не ведаю якога. Побач з вуліцай з правага боку бачу нейкае мора. Плыве карабель. Мая мачыха хоча трапіць на гэты карабель і кідаецца ўбок, проста да яго. Але вада аказалася замерзшай. Усюды лёд. Яна ідзе па лёдзе, а пасля бачыць, што лёд канчаецца і пачынаецца вада. Хоча пераскочыць на крыгу, якая плыве крыху далей. Аднак жа не дае рады пераскочыць і падае ў ваду. Я хачу яе выцягнуць. Лёгшы на лёд, я пачынаю шарыць рукою ў вадзе, але не магу яе знайсці. Нейкая жанчына стаіць збоку і кажа: „Каб хацела, дык ускочыла б у ваду і знайшла!“. Але я разумею, што калі б я ўскочыла ў гэту ваду, дык мы ўтапіліся б разам і гэта нічога б не дало. Ведаю, што цела яшчэ павінна пару разоў вынырнуць наверх. І сапраўды, праз момант мачыха паказалася на вадзе, і я вялікім высілкам выцягваю яе на лёд. Яна яшчэ жывая. А таму ўдалося мне яе выцягнуць, што зрабілася яна маленькая, як дзіця. І намнога лягчэйшая, чым была ў жыцці. Што могуць абазначаць гэтыя мае сны?

**Эва**

Эва! Што датычыцца твайго першага сну, дык ён не абазначае нічога страшнага. Абазначае нейкія клопаты, але звязаныя, бадай, з прыбыткам.

Другі сон абазначае для цябе нейкую ўтрату, няўдачу, аб чым сведчыць лёд. Тое, што табе прыснілася мачыха, дазваляе меркаваць, што гэта ўтрата ці няўдача вынікне з людской няшчырасці, з нейкіх непрыемнасцяў. Мачыха нічога добрага ў сне не абазначае, хоць ты яе і выратавала ад смерці. Клопат будзе!

**Астрон**




Сэрцайка, не ведаю, што здарылася з маёй жонкай, але ў апошні час яна стала проста немагчымая. Нервовая, кідаецца да мяне без прычыны, зусім перастала займацца дзіцём, кінуўшы ўсё на рукі свякрухі. Свякруха мая гэта залаты чалавек. Узяла нас да сябе на кватэру, купляе, варыць, даглядае дзіця, а мы толькі ведаем сваю працу. І яшчэ кепска!

Пажаніліся мы пяць гадоў таму назад. Каханне было трывалае, бо мы ўжо да гэтага сябравалі з жонкаю шэсць гадоў — яшчэ са школы. Былі неразлучнай парай, было нам разам добра. А вось цяпер я бачу, што, відаць, не ўсё так добра, як мне здавалася. Жонка гыркае на мяне, ходзіць раздражненая, стомленая, проста нават не ведаю, што рабіць, каб нешта змянілася ў нашым жыцці, бо я так не вытрымаю далей, хаця вельмі кахаю яе. Жонка працуе ў школе, дык можа яе раздражненне вынікае з цяжкой працы... Скажы, Сэрцайка, як можна дапамагчы ёй і адначасова сабе, бо калі існуючы стан будзе працягвацца, дык наша сям'я не вытрымае пробы часу.

**Андрэй**

Андрэй! Не навіна, што сёння раздражненых людзей штораз больш. Але па чарзе. Раздражненне тваёй жонкі, па-першае, можа вынікаць якраз з агульнай сітуацыі. Вядома, як зарабляюць настаўнікі — дзве трэціх сярэдніх краёвых заробкаў, а цэны растуць не па днях, а па гадзінах. Можна знервавацца, праўда?!

Па-другое, жыццё ў выніку такой сітуацыі становіцца ўсё менш вясёлым, асабліва для дзяржаўных працаўнікоў. Ліквідуюцца клубы, на іх месца даюць дарагія рэстараны ці магазіны, у якіх не кожны з нас можа нешта купіць. Людзі глядзяць адзін на другога ваўком, мала хто каго запрашае ў госці.

Па-трэцяе, праца тваёй жонкі вымагае добрага здароўя і вялікай самаахвярнасці. Вядома, як цяжка часамі бывае настаўніку на ўроках. Вучні перастаюць шанаваць настаўнікаў, бо сёння можна ім фактычна больш, чым настаўніку. А, зрэшты, што тут дзівіцца, калі моладзь ужо паліцыю пачала лупіць.

Па-чацвертае, магло здарыцца так, што твая жонка ў некага закахалася. Калі вы шэсць гадоў сябравалі ды ўжо пяць гадоў па шлюбе, дык мо ўжо і знудзілася крыху табою. Маці ёй усё робіць і дзіця даглядае, а каб больш мела абавязкаў у хаце, дык мо была б весялейшая. Праца вылечыла не аднаго! Пастарайся папрыглядацца ўважліва да паводзін сваёй жонкі, пахадзі з ёй туды-сюды, пабывай у кампаніі яе сяброў і сяброваў з працы — мо тады нешта праясніцца. Калі сапраўды ў яе знайшоўся нехта новы, дык мусіш мабілізавацца і старацца быць больш цікавым, атракцыйным для сваёй жонкі. Інакш — бяда!

Але, па-пятае, можа быць і такая сітуацыя, што проста задае яе беспадстаўная нуда. Нудзіць яе ўсё: і сітуацыя ў краіне, і сябры ды знаёмыя, і дзеці ў школе, і нават ваша дзіця, а найбольш — ты. Мо задоўга вы хадзілі перад шлюбам, дык перахадзілі. У такой сітуацыі можа варта параіць ёй, каб якраз знайшла некага свежага, хто развесяліць яе больш, чым ты. Прынамсі забудзецца пра ўсе нягоды шэрай будзённшчыны. Калі маеш нейкага „бяспечнага“ сябра, дык „падсунь“ яго ёй. Будзе карысць двухбаковая.

**Сэрцайка**




## Бісквітныя пірагі

**РУЛЕТ З ДЖЭМАМ**

На 4 яйкі трэба ўзяць 4 лыжкі мукі, адну пачку ванільнага цукру, 25 дэкаў джэму, 2 лыжкі цукровай пудры, масла.

Плоскую бляшку вылажыць пергаментнай паперай, змазанай тоўста маслам. Яйкі памыць, аддзяліць бялкі. Жаўткі расціраць з цукрам, пакуль не стануць белымі. З бялкоў збіць цвёрдую пену, вылажыць яе на жаўткі, далікатна (па сценках посуду) усыпаць прасеяную муку, размяшаць цеста лыжкай, вылажыць на падрыхтаваную бляшку з пергаментнай паперай, размазаць на таўшчыню 1-1,5 см. Уставіць у нагрэтую духоўку, спячы. Пірог пералажыць на чыстую сціračку, пераварочваючы бляшку ўверх дном, зняць з яго паперу і адразу паверхню змазаць джэмам. Згарнуць у шчыльны рулет, загарнуць у сціračку і так астудзіць. Пасля пасыпаць цукровай пудрай, перамешанай з ванільным цукрам.

**ШАРЛОТКА**

На 5 яек трэба ўзяць 5 лыжак цукру, 7,5 лыжак мукі, паўкілаграма кіслых яблыкаў, 2 лыжкі цукровай пудры, 1 пачку ванільнага цукру.

Памытыя яйкі выліваць па чарзе ў місачку, а тады зліць іх у высокі посуд, дадаць цукар. Муку прасеяць. Вялікую тартаўніцу змазаць маслам. Яйкі збіваць венічкам на працягу паўгадзіны, дадаць муку (сыплючы па сценках посуду), перамяшаць. Палову цеста выкладзець на дно тартаўніцы, на яго паверхні палажыць яблыкі (абабраныя і нарэзаныя), заліць рэштай цеста. Спячы ў гарачай духоўцы. Калі цеста падрумяніцца, выключыць духоўку, выняць пірог. Астуджаную шарлотку пералажыць на спецыяльную талерку і пасыпаць праз сітка цукровай пудрай, перамешанай з ванільным цукрам.

**Гаспадыня**

# Зорка

## Старонка для дзяцей

Станіслаў Шушкевіч

### КРАСАВІК

Полем, лесам, пералескамі,
Па зямлі, вясной абуджанай,
Красавік ідзе з пралескамі
Па пpaталінах і лужынах.

Ручайкі гудуць напорыста,
Распусцілі вербы голлейка,
На галінцы ціхім посвістам
Шпак вітае рана сонейка.

За дарогай, за прысадамі,
Млын з няспынным гулам-гоманам,
Там жаўрук дадалу падае
У быльнёг сухі, паломаны.

Дзе сасна расце высокая
Па-над рэчкай гаманліваю,
Бусел радуе нас клёкатам,
Прыляцеў ён з далеч-выраю.

І дарогаю, і трактамі,
Наўздагонкі нібы гоняцца,
Плуг бяжыць за гонкім трактарам,
Ажно поле гулам поўніцца.

Полем, лесам, пералескамі
Па зямлі, вясной абуджанай,
Красавік ідзе з пралескамі
Па праталінах і лужынах.

### ЛЯЦІЦЕ, ПТАХІ

Снег растае, пад капяжом
Люстэркам ззяе лужына.
Зноў крышыць лёд, нібы нажом,
Вясной рукамі дужымі.

Над ярам хутка на вярбе
Галлё аблепяць коцікі,
Раўчук вадзіца паграбе
І з рокатам пакоціцца.

Падымуць крыгі плечукі,
Каб плыць за хваляй гонкаю,
Разбудзяць поле жаўрукі
Чаканай песняй звонкаю.

Калі адмерае цяпла
Вясна нам мерай шчыраю,
Пачуем голас з-за сяла,
Паўднёвы голас з выраю.

Ляціце, птахі, ў добры час,
Шчасліваю пуцінаю,
Мы любім вас, чакаем вас
Над роднаю краінаю.



ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Станіслаў Шушкевіч

### БУСЕЛ КЛЁКА-КЛЁКАЛА І ЖАБА КВОКА-КВОКАЛА

— Ква-ква-квок!
Ква-ква-квок!
Гэта мая купіна,
Мой грудок.
Хораша наўкола —
Мох і твань...
Тут маё балотца,
Дзе ні глянь.
Тут я каралеўна —
Мой увесь абшар,
Мой увесь чаротнік
І гушчар.
Паглядае жабка
На куп'ё:
— Гэта, тое, тутака —
Усё маё.

Важна крочыць бусел —
Цоп-цоп-шась...
— Я тут каралевіч,
Я тут князь!
Тут я Клёка-Клёкала —
Гаспадар,
Гэта ўвесь навокала
Мой абшар,
Гэта мая лужына,
Мой астравок.
Хто ў чароце квокае —
Кво-кво-квок?

Бусел па чаротніку —
Цоп-цоп-шась,
А малая Квокала —
Скок у гразь.

### КОЗАЧКА-СВАВОЛЬНІЦА

За дзяўчынкай гоніцца
Козачка-свавольніца.
Рожкамі кальнула,
Хвосцікам махнула,
Гайсанула цераз плот
У зялёны агарод.
Пэўна ёй, кудлатай,
Хачацца салаты?
Пэўна, ёй да густу
Морква і капуста?
Агароднік пужкай
Выгнаў валацужку.
Пыл з-пад ножак курыцца,
Як пабегла вуліцай.
Нібы зайчык, скача,
Гоніць гусак, качак.
— Ах ты, непаслушніца! —
Кажа цётка-птушніца.
Вось табе і „мэ-ка-ка" —
Пухне ў козачкі шчака.

Станіслаў Шушкевіч




Пчала ляцела ў свой вулей дадому, а Авадзень — куды вочы глядзяць. У яго ніякай хаціны няма. Па дарозе яны ўбачылі квяцістую ліпу. Пчала прысела на кветку, а Авадзень учапіўся за лісток і ад няма чаго рабіць пачаў гушкацца і брынькаць. У гэты час крапянуў дожджык. І Пчала і Авадзень схаваліся пад шырокі ліпавы лісток, прымасціліся побач.

— Для чаго ты збіраеш пылок і нектар з кветак? — пытае Авадзень у Пчалы.

— Каб сябе і сям'ю карміць, каб і чалавеку аддаць лішкі, — адказала Пчала.

Авадзень зарагатаў. Яму смешна стала, што пчала частуе і чалавека, якога ён не раз збіраўся ўкусіць.

— А за што ж ты чалавека корміш мёдам? — спытаў Авадзень.

— Чалавек пабудаваў нам вуллі, у якіх мы жывём. Чалавек абгарадзіў нашы вуллі плотам, каб да іх не падышла жывёла. Чалавек пасадзіў вакол нашых вулляў яблыні, грушы, вішні і слівы. З кветак тых дрэў мы збіраем мёд.

— Няўжо яблыні і грушы цвітуць? А я і не ведаў, — пакруціў галавою Авадзень.

— Хіба ты не бываў вясною ў нашых мясцінах? — пацікавілася Пчала.

— А я жыву ўсяго трэці дзень. Мне ніхто пра сады не расказваў. Авадні жывуць нядоўга, іх век кароткі, усяго пяць дзён. Праўда, ёсць сярод нас і такія, якія дажываюць і да дваццаці дзён.

— Гэта таму, што вы гультаі, дык і недаўгавечныя, — сказала Пчала. — Мы жывём па некалькі год. Ёсць і ў нашых сем'ях абібокі, трутні. Іх век таксама кароткі. Вясна, лета, а як прыйдзе халодная восень, мы іх выганяем з вулля, і яны паміраюць ад холаду і голаду.

— І вам іх не шкада?

— Хто не працуе, той не мае права на яду, — загула Пчала.

— А можа, у вашай сям'і гэта толькі ты такая строгая, а ўсе астатнія добрыя і лагодныя? — пацікавіўся Авадзень.

— У нашым вуллі ажно сто тысяч такіх, як я. І ўсе любяць працаваць. Мы ад раніцы да вечара збіраем пылок і нектар, робім мёд, — яшчэ мацней загула Пчала.

— Ой, не гудзі так моцна, — — папрасіў Авадзень. — Ужо дожджык сціхае, пачуе нашу размову Верабей, прыляціць і задзяўбе нас.

— Пчол Верабей не есць, — адказала Пчала. — У мяне няма часу з табой размаўляць, палячу хутчэй у вулей.

— І мне трэба ляцець, бо есці хочацца. Вунь на пагорку каровы пасуцца, можа, з якой-небудзь крыві насмакчуся, — дзынкнуў Авадзень.

— Ого-го! Дык ты не толькі гультай, а і крывасмок! — сказала Пчала і вылецела з-пад лістка. За ёй, нібы наўздагонкі, паляцеў Авадзень.

З ліпы яго ўбачыў Верабей і кулявю кінуўся за ім. На ляту злавіў ён Авадня, на ляту і праглынуў яго. Пчала бачыла гэта. Мо і пашкадавала яна свайго няўдалага суседа, з якім некалькі хвілін пасядзела пад ліпавым лістком, бо чуваць было, як жаласліва загула:

— Няўжо гэты гультай-крывасмок жыў усяго тры дні? І за гэтыя тры дні ані розуму не набраўся...

# Малюнкі школьнікаў



*Малюнак да казкі „Залатая с якера". Андрэй Аляксеюк, III клас, школа ў Храбалах.*

Янка Золак

## Палявіна

На ўроку прыродазнаўства ў першым класе настаўніца пытаецца ў вучняў:

— Вы ведаеце, якія расліны растуць у гародзе?

— Морква, бручка, рэдзька, буракі, капуста, памідоры, — пералічваюць вучні.

— Добра, — працягвае настаўніца. — А каб не пералічваць усіх раслін, якія растуць у гародзе, якім адным словам можна назваць гародныя расліны?

Дзеці маўчаць. Настаўніца тлумачыць:

— Усе расліны, якія чалавек вырошчвае для свае патрэбы ў гародзе, называем адным агульным словам „гародніна". — І пасля кароткае паўзы пытае: — Дык як называюцца расліны, якія растуць у гародзе?

— Гародніна! — хорам паўтараюць дзеці.

— Вельмі добра! — хваліць настаўніца. — А цяпер скажыце мне: дзе на дрэвах растуць яблыкі, грушы, слівы, вішні?

— У садзе, — хорам адказваюць дзеці.

— Так. Яблыкі, грушы, слівы і вішні растуць на дрэвах у садзе. Гэта — плады садовых дрэў. А якім адным словам можна назваць усе гэтыя плады?

Дзеці маўчаць, думаюць. Настаўніца тлумачыць:

— Усе плады садовых дрэў называюцца адным словам „садавіна". — І пасля паўзы, пытаецца: — Дык якім адным словам называюцца плады садовых дрэў?

— Садавіна, — дружна адказваюць дзеці.

— Добра, вельмі добра, — хваліць настаўніца. — А цяпер, можа, вы скажаце, якія карысныя для чалавека расліны растуць на полі?

— На полі растуць: жыта, пшаніца, ячмень, авёс, грэчка, проса, — пералічваюць вучні.

— А якім адным словам называюцца гэтыя расліны?

— Палявіна, — не задумваючыся, адказваюць дзеці.

## Вясёлы куточак

✲

**— Мама! Вось дык я сёння бачыў нешта смешнае!**

**— Што, сынку?**

**— Цыганка лавіла нашага пеўня і не магла злавіць. Дык я ёй дапамог.**

✲

**— Мама, я сёння зрабіў вельмі добрую справу.**

**— Што ж ты зрабіў, сынок?**

**— Двое беглі да цягніка. Я нацкаваў на іх нашага сабаку, і яны так уцякалі ад яго, што паспелі на цягнік!**

✲

**На дарозе плача хлопчык. Яго пытаюць:**

**— Ты чаго плачаш?**

**— Бо згубіў бацьку.**

**— І не трапіш дадому?**

**— Ды я знайду дарогу, але татка не патрапіць.**

✲

**— Мамачка, як называецца станцыя, якую мы праехалі?**

**— Не ведаю. І не перашкаджай мне, не бачыш, я чытаю!**

**— Шкада, што не ведаеш. Наш маленькі Ваня якраз там сыйшоў з цягніка.**

**Прыслаў В. Бабей**

## Вершы Віктара Шведа

### БЛІЗНЯТЫ

Настаўнік да дошкі паклікаў
Слабенькага вучня, Андрэя:
— Як будзе дзіця ў множным
ліку?
Андрэй адказаць не ўмее.

— А можа з вас хтосьці паможа
Няўмеламу, хлопцы, дзяўчаты?
Тут вырваўся раптам Сярожа:
— Дык гэта ж, напэўна,
блізняты!

### „СТО ЛЯТ"

— Сёння ў хаце нашай свята:
Пяць гадкоў твой мае брат!
Заспяваем разам з татам
Песню слаўную „Сто лят".

— Ты скажы мне шчыра, мама,
Што тады будзем спяваць,
Калі нашаму Адаму
Споўніцца гадкоў сто пяць?

## Паглыбляй свае веды

### ЛЕБЕДЗЬ-ШЫПУН

Лебедзь-шыпун — гэта вадаплаўная птушка сям'і качыных, атрада гусепадобных. Трапляецца ў Еўразіі. Лебедзі жывуць на вельмі зарослых травяністай расліннасцю цяжкадаступных азёрах. Месцы пражывання лебедзяў змяняюцца пад уплывам гаспадарчай дзейнасці чалавека. Знікненне гэтых птушак у канцы 19 — пачатку 20 веку выклікана было знішчэннем іх чалавекам. Кладкі лебедзя-шыпуна знішчаюць шэрыя вароны, балотныя мышаловы, выдры.

Лебедзь добра прыручаецца. Яго як дэкаратыўную птушку трымаюць у парках і асобных вадаёмах.

Лебедзь корміцца падводнымі часткамі раслін (карэнішчы, лісці, пупышкі), дробнымі беспазваночнымі. Корм збірае з паверхні вады або са дна на мелкаводдзі.

Неабходна забеспячэнне спакою гнездавальных птушак. Лебедзь — гэта буйная птушка: даўжыня яго цела да 1,8 м, маса самак 5,5 — 6, самцоў 8 — 13 кг. Шыя лебедзя моцна выгнутая, дзюба ў дарослых птушак чырвона з чорным нарастам, апярэнне белае (маладыя птушкі буравата-шэрыя). На вадзе лебедзь выгінае шыю, галаву трымае ўніз, крылы ветразепадобна распушчаны і прыўзняты над спінай. Лебедзь узлятае пасля доўгага разгону. Палёт яго няспешны, з глыбокімі моцнымі ўзмахамі крылаў і выцягнутай уперад шыяй. Голас — адрывістае, глухое і хрыплае гагатанне. Лебедзь — манагам (жыве цэлае жыццё ў адной пары). Прылятае ў сярэдзіне красавіка. Гнёзды будуе з сцяблоў трысняку на трысняговых завалах. Кладка яек з сярэдзіны мая (6—9 брудна-блакітных), наседжванне іх — 35 сутак. У выпадку гібелі першай кладкі магчыма паўторнае гнездаванне. Маладняк лебедзя лётны ўжо ва ўзросце каля 2 месяцаў.



Лебедзь адлятае ў кастрычніку-лістападзе, зрэдку затрымліваецца да студзеня. Зімуе на Чорным і Каспійскім морах.

## Легенды і паданні

### ЧАМУ ЧАЛАВЕК ШАНУЕ ХЛЕБ

Быў час, калі на свеце нікога не было, апрача аднаго чалавека. У гэтага чалавека было многа ўсялякага дабра, але найбольш хлеба. Кавалкі яго валяліся і па двары, і пад лаваю, і ў хляве, усюды. Убачыў Бог такую непавагу да хлеба і адабраў яго ад людзей. Настаў голад, і людзі памерлі б усе. Але іх кот і сабака ў той час, калі Бог адбіраў хлеб у чалавека, падышлі да Яго і пачалі прасіць хлеба. Бог даў ім па каласку. Чалавек адабраў у іх гэтыя два каласкі і пачаў сеяць. Прайшло некалькі год і чалавек ізноў нажыў многа хлеба. Але з таго часу ён пачаў ужо шанаваць хлеб.

### ПЕРАЛЁТ-ТРАВА, АБО ЛЯТУЧАЕ ЗЕЛЛЕ

Расказваюць пра яе, што яна здольна пераносіцца з месца на месца, а кветка ў яе колераў вясёлкі, надзвычай жывая і прытожая. У сваім начным палёце блішчыць, нібы зорка. Шчаслівы той, хто сарве — не спазнае гора ў сваім жыцці, усе яго жаданні збудуцца. Пералёт-трава — зелле шчасця.

**(З кнігі „Легенды і паданні")**

## АДГАДАНКА

Дапасуй ногі да галоў жывёл.






Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

